

# Навіны БНФ

**нумар 8 (87)**
9 верасьня 2005 г.

## У нумары:

**Новы сэзон,** *Андрэй Саротнік,* стар. 2



**Праблемы вырапальныя,** *Віктар Карняенка,* стар. 3



**Сацыялёгія беларускага Майдану,** *Юры Чавусаў,* стар. 4-5



**Газэта Моладзі БНФ,** *Каця Маркоўская,* стар. 8



**Мікола Пачкаеў,** *асоба,* стар.12






Палякі адзначаюць чвэрць стагодзьдзя ад пачатку руху да перамогі паспалітага люду над камуністычным рэжымам. 25 гадоў таму ўтварыўся прафзьвяз "Салідарнасьць", які стаўся першым выклікам чырвонаму таталітарызму, весьнікам свабоды. Празь некалькі гадоў вайсковага становішча й часам безнадзейнага змаганьня "Салідарнасьць" прывяла да аксамітных рэвалюцыяў у цэнтральнаэўрапейскіх краінах. Прыклад "Салідарнасьці" надаваў моцы тым, хто дамогся пераўтварэньня з аўтарытарных у дэмакратычныя краіны Славаччыны, Сэрбіі, Грузіі, Украіны.

Салідарнасьць набірае моц і ў Беларусі. Цягам бліжэйшага месяца ў краіне зьявіцца адзіны кандыдат, альтэрнатыўны цяперашняму рэжыму несвабоды. Прывід таталітарызму паўстаў зь мінуўшчыны, дажыў да сёньняшняга дня й хоча панаваць над намі заўсёды. Але хваля свабоды пайшла па Эўропе 25 гадоў таму. І гэтую хвалю спыніць немагчыма!

# Вінцук Вячорка: «БЫВАЮЦЬ ЮБІЛЕІ, ЯКІЯ ВЫМУШАЮЦЬ СЬВЕТ ІНАКШ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ГІСТОРЫЮ»

***– Вы правялі некалькі дзён у сьвяточным Ґданьску, дзе значалася 25-годзьдзе «Салідарнасьці». Якое наймацнейшае ўражаньне?***

– Бываюць юбілеі, якія вымушаюць сьвет інакш паглядзець на гісторыю. Галоўнае ўражаньне: палякі здолелі нагадаць сьвету, як і адкуль усё пачалося. Не гарбачоўская «перастройка» разваліла таталітарную камуністычную сыстэму, а народы Цэнтрально-Ўсходняй Эўропы. Выдатна сказаў Лех Валэнса: камунізм зрэфармаваць немагчыма, ён нерэфармавальны. Сапраўды, не ўнутрыкрамлёўскія інтрыгі паставілі крыж на імпэрыі. Ґданьскі жнівень 1980 году паказаў, што бэтон сыстэмы дае расколіну, калі масы людзей мірна бароняць сваю, відавочную для ўсяго грамадзтва, праўду.

Адзін з плякатаў сьвята – шэраг костак даміно, што валяцца адна за адной: Ґданьск, Будапэшт, Бэрлінская сьцяна, Гавэл, урэшце Майдан... І ўсюды людзі стаялі ня толькі за сацыяльныя правы, але за незалежнасьць ад Крамля ды за нацыянальную тоеснасьць. Дэмакратычная нацыянальная ідэя ды хрысьціянскія каштоўнасьці перамаглі таталітарызм у душах людзей, у якіх праз гады вайсковага становішча прарасло сеянае Папам Янам Паўлам ІІ зерне: "Ня бойцеся!" Пазьнейшыя крамлёўскія спробы задушыць свабоду ці то зьмітаваць абнаўленьне былі толькі наступствам.

Дарэчы, славутая Ґданьская карабельня, дзе й адбыўся пераможны страйк, цяпер мае няпросты час, і на ейнай легендарнай браме, парушаючы сьвяточную танальнасьць, віселі лёзунгі пратэсту супраць неадпаведнай, на думку работнікаў, прыватызацыі. Ніхто іх не зрываў, ніхто не цкаваў прафсаюзьнікаў. У Польшчы цяпер ёсьць дэмакратычныя мэханізмы вырашэньня канфліктаў і спрэчных пытаньняў, і за гэта варта было змагацца.

**/...працяг на старонцы 6 /**

**Андрэй САРОТНІК,**
сакратар Управы Партыі БНФ

# Новы сэзон

Восень. Пачынаецца новы палітычны сэзон. Людзі канцэнтруюцца ў гарадох, вяртаюцца да працы, да вучобы. Вяртаюцца з адпачынкаў, згаладнелыя па інфармацыі. Гэта спрыяльны момант, гэта шанец перахапіць ініцыятыву. Працаваць стане лягчэй, нам будзе прасьцей даходзіць да людзей, бо яны побач.

Гэтае лета было інтэнсыўнае, напружанае, нясумнае. Скандал з Саюзам Палякаў, громкія судовыя працэсы й галадоўкі. Істотнай падзеяй у палітычным жыцьці дэмакратычных сілаў была падрыхтоўка да Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў. Прайшло больш сотні раённых сходаў – беспрэцэдэнтная кампанія па аўдыту наяўных сілаў і сродкаў на ўжо бачную здалёк прэзыдэнцкую гонку. Наша партыя на тле іншых пацьвердзіла свой лідэрскі статус у дэмакратычным лягеры. Агулам дэлегатаў Партыя БНФ вылучыла за 50 чалавек, у сходах прыняло ўдзел каля 1 000 франтаўцаў. Як для аксамітнага сэзону адпачынкаў, то нядрэнны вынік. Восень-зіма 2005-2006 будзе шчэ цікавей.

1-2 кастрычніка павінны прайсьці Кангрэс Дэмакратычных Сілаў. Пасьля яго – старт кампаніі адзінага кандыдату. Мы маем вялікія шанцы быць рухавіком дэмакратычных пераменаў-2006. Кандыдат, падтрыманы Партыяй БНФ (Алесь Мілінкевіч), па папярэдніх ацэнках дэлегацкага складу, можа разьлічваць на палову ад усіх галасоў. Пры татальнай мабілізацыі ды папярэдняй працы з хісткімі групамі, перамога можа прыйсьці ў першым туры.

Тады пачнецца імклівая кампанія па інфармаваньні насельніцтва аб альтэрнатыве. Ня бойцеся званіць у дзьверы, у дамафоны, ня бойцеся кідаць улёткі ўдзень, не хавайцеся ад людзей. Мы не бандыты, не рабаўнікі і ня нейкія няўлоўныя міфічныя здані, што зьяўляюцца па начох і пакідаюць у скрынях улёткі, ці расьпісваюць муры й якіх ніхто ніколі ў вочы ня бачыў. Мы вось, мы тут і нас шмат. Тое, што мы робім – гэта наша права, гэта наш выбар, гэта наша адказнасьць за краіну. Мы раней за іншых зразумелі, што нас ашукваюць.

**Кажыце пра гэта!**

Улёткі і прамы кантакт з выбарцамі зараз для нас ці не адзіны шлях дагрукацца да сэрцаў і душаў людзей. Ня трэба недаацэньваць эфэктыўнасьць улёткавых кампаніяў. Мой асабісты досьвед кіраваньня дзьвюма кампаніямі паказаў, што людзі атрымліваюць інфармацыю з друкаваных матэрыялаў. На мінулых выбарах у кандыдата, якому я дапамагаў, (у Аляксея Янукевіча, намесьніка старшыні Партыі БНФ) было восем відаў розных улётак. Некалькі хваляў улётак ня толькі не прыеліся чыжоўцам – простым працаўнікам МАЗу, трактарнага заводу, якіх палітыка не цікавіць. Наадварот, тэлефон кандыдата разрываўся ад званкоў. Людзі ўбачылі рэальную альтэрнатыву, званілі, каб падзяліцца сваімі праблемамі, каб проста пажадаць посьпеху, выказаць словы падтрымкі. Таму нельга дазволіць, каб стосы матэрыялаў "стухлі" пад ложкамі ці пайшлі на растопку камінаў на лецішчах – яны патрэбныя людзям. Менавіта як носьбіт інфармацыі, як выраз нашых каштоўнасьцяў, як тая праўда, пра якую больш нідзе нельга будзе даведацца – наклады незалежных газэтаў невялікія, а пра тэлевізію застаецца толькі марыць. Кожная ўлётка – гэта куля ў сэрца рэжыму, цьвік у ягоную труну. Да таго ж, улёткі каштуюць грошы, на іхную распрацоўку і выраб не адзін чалавек патраціў свой каштоўны час і талент. Шануйма ж працу іншых!

Мы выходзім на фінішную прамую. Калі добра адпрацуем і даставім у кожны дом носьбіты праўды, будзем мець вынік. Паўстанцы 1863 году, случчакі, "лясныя браты" за свабоду ішлі на сьмерць. У нашыя часы могуць даць хімію, суткі, штраф. Непрыемна, але ня так страшна. А наша задача будзе цапкам рэальная – "раскруціць" адзінага кандыдата. Краіна ў нас дастаткова кампактная, раённыя сходы засьведчылі наяўнасьць амаль гатовых камандаў амаль ува ўсіх раёнах Беларусі. Розныя па поглядах сілы – ад Партыі БНФ да камуністаў – рэальна аб'ядноўваюць намаганьні дзеля дасягненьня адной мэты – незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. І гэта ня можа не выклікаць аптымізм. З новым палітычным сэзонам!

1 – 2 кастрычніка ў Кіеве адбудзецца доўгачаканы Кангрэс дэмакратычных сілаў на якім мусіць быць вылучаны адзіны кандыдат на прэзыдэнцкія выбары. Мяркуем, ім станецца Алесь Мілінкевіч. Аднак кангрэс – гэта толькі веха доўгатэрміновай і цяжкай барацьбы за дастойную, народную ўладу. Як ідзе апошні этап падрыхтоўкі да імпрэзы? Што будзе пасьля? Пра гэта ў інтэрвію навінам гаворыць кіраўнік передвыбарчага штаба па вылучэньні Алеся Мілінкевіча адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў, **Віктар КАРНЯЕНКА.**

– Падтрымка адзінага кандыдата з нашага боку ў кожным разе будзе забясьпечаная, хто б ні стаў тым адзіным. Алесь Мілінкевіч узяў на сабе абавязкі падтрымаць адзінага. Упэўнены, што абсалютная большая частка каманды гэта зробіць гэтактаксама.

**– А хто ёсьць "камандай Мілінкевіча", хто тыя людзі, якія ёсьць "вузкім колам"!**

Такіх людзей даволі нямала. Але галоўныя, мабыць, Вінцук Вячорка, Алег Грамыка, Уладзімер Лабковіч, Віктар Івашкевіч, Андрэй Саротнік,



# Праблемы вырашальныя

**– Ці задаволеныя Вы тым, як прайшоў працэс вылучэньня дэлегатаў на кангрэс!**

– І так, і не. Ня спраўдзіліся чаканьні тых, хто думае, што да гэтага працэсу далучыцца шырокае кола грамадзкасьці, і ён выйдзе па-за межы яе вузкай, палітычна актыўнай, часткі. Гэта – праблема. Але мы ад самага пачатку былі ў гэтым упэўненыя, не перабольшвалі ролю гэтага працэсу. Праз гэта папулярызацыі адзінага кандыдата ня зробіш. Для гэтага патрэбна шмат працаваць пасьля яго абраньня. Што ж да самога працэсу, дык у абмежаваных рэсурсных і часавых умовах, дзякуючы самаахвярнасьці людзей, мы здолелі правесьці папяровую працу ва ўсіх раёнах Беларусі, дамагліся вылучэньня больш за 100 дэлегатаў – прыхільнікаў Аляксандра Мілінкевіча. Але, бязумоўна, ўсё будзе вырашацца на кангрэсе. І тут існуе шмат чыньнікаў: як выступіць сам Мілінкевіч, як будуць дзейнічаць нашыя апанэнты, ці ўдасца ўсім абраным дэлегатам даехаць да месца правядзеньня кангрэсу. Гэта ўсё аб'ектыўныя прычыны.

**– І ўсё ж, як Вам бачацца вынікі кангрэсу!**

– Спадзяюся на перамогу. Вядома ж, што Мілінкевіча падтрымалі БНФ, Зялёныя, Партыя свабоды й прагрэсу, БСДП (НГ) Міколы Статкевіча – 4 зь 10 суб'ектаў т.зв. "дзясяткі" – стала дзейнай нарады дэмакратычных сілаў. Таксама сп. Мілінкевіча вылучылі ўсе рэгіянальныя абласныя канфэрэнцыі, апроч Менскай вобласьці. А ў Гомлі й Магілеве ўвогуле ён вылучаны адзін. Што ж да стану справаў у нашых паважаных апанэнтаў, то гэта, мяркую, пытаньне да іх самых.

**– Але ж пасьля кангрэсу ўсе апанэнты мусяць стаць адной камандай.**

Юры Хадыка, Андрэй Кусяльчук, Мікола Маркевіч, Павал Мажэйка.

**– А што ж Сямён Домаш, кіраўніком штаба якога быў Алесь Мілінкевіч на мінулых выбарах!**

– Размовы зь ім былі. Але безвыніковыя. Ён вырашыў ні ў што ня ўмешвацца.

**– Якая роля няўрадавых арганізацыяў пры падрыхтоўцы да кангрэсу ды пасьля яго! Бо Мілінкевіч жа доўгі час працаваў у "трэцім сэктары"!**

– Вялікую ролю яны адыгралі ў раённых сходах. Ужо пацьвердзілі згоду ўдзельнічаць у Кангрэсе 126 няўрадавых арганізацыяў, а будзе больш. Гэта значыць, што арганізацыі гатовыя працаваць ў адзінай камандзе й пасьля кангрэсу. Ёсьць таксама арганізацыі, якія рыхтуюцца да выбараў асобна, па-за ўдзелам у агульнай працэдуры – гэта група "Разам", куды ўваходзяць больш за 10 няўрадавых арганізацыяў: Беларуская арганізацыя працоўных жанчынаў Ірыны Жыхар, Незалежнае таварыства прававых дасьледваньняў Алены Танкачовай, Саюз "РАДА" Сьвятлены Каралёвай, Агенцыя гуманітарных тэхналёгіяў Уладзімера Мацкевіча, арганізацыя Ірыны Сухій. Яны, упэўнены, далучацца да агульнай працы крыху пазьней. Няўрадавыя арганізацыі гатовыя падтрымаць Алеся Мілінкевіча.

**– Зь якімі галоўнымі праблемамі Вы ўжо сутыкнуліся, і якія нас яшчэ чакаюць!**

– Праца над упарадкаваньнем кааліцыі, над тым, як яна павінна выглядаць пасьля кангрэсу. Няма стратэгічнага пляну дзейнасьці. Мы ўносілі прапановы, што трэба потым рабіць, пакуль жа яны й не адкінутыя, і не абмеркаваныя.

**– А што трэба рабіць у першую чаргу!**

– Сацыяльныя, інфармацыйныя кампаніі. Мы павінны выйсьці на шырокае кола грамадзкасьці, на народ, а некаторыя нашыя партнэры ў першую чаргу вырашаюць, хто дзе павінны сядзець, хто будзе кіраўніком кампаніі, хто будзе ачольваць штаб і г.д. Другая праблема Палітычныя партыі павінны будуць адмовіцца ад сувэрэнітэту й пайсьці ва-банк, ахвяраваць усім дзеля агульнай перамогі. Працэс вылучэньня, які йшоў увесь гэты час, конкурсны, таму спаборніцтва паміж рознымі партыямі на гэтым этапе натуральнае. Але – толькі на гэтым, не на наступным. Дзейнасьць партыяў павінная быць толькі ў той частцы, што патрэбная Мін'юсту, тэхнічная: два разы на год – управы, соймы, перапіска. Плюс міжнародная дзейнасьць. Палітычная ж дзейнасьць партыяў павінна працаваць на карысьць агульнага штабу ды ў разьвіцьцё рашэньняў штаба. Ці здольныя партыі на гэта?

Сёньня пакуль яшчэ ня вызначана, што будзе галоўным органам, які прымае палітычныя рашэньні. Я лічу, што гэта павінная быць "дзясятка", да якой могуць далучацца іншыя кандыдаты ды іх структуры, напрыклад, Аляксандр Ярашук і БКДП, Валер Фралоў і яго каманда. Вельмі важна дакладна падзяліць функцыі. Я лічу, першае, што павінна зрабіць "дзясятка" – прыняць стратэгічны плян дзейнасьці да перамогі. Другое – павінна па прапанове адзінага кандыдата зацьвердзіць штаб, яго склад. Трэцяе – нацыянальны камітэт, ценевы ўрад. А штаб павінны быць галоўным органам падчас правядзеньня кампаніі, выканаць стратэгічны плян і знайсьці пад гэта ўсе патрэбныя рэсурсы – фінансавыя, матэр'яльныя, людзкія, тэхнічныя.



Юры ЧАВУСАЎ, палітоляг

# Сацыялёгія беларускага

Сацыялягічныя дасьледаваньні могуць выкарыстоўвацца ў палітычнай дзейнасьці розным чынам. Распаўсюджанымі зьяўляюцца "войны рэйтынгаў", маніпуляваньне сацыялягічнымі дадзенымі падчас агітацыі, правядзеньне экзіт-пулаў. Аднак асобную ролю граюць палявыя сацыялягічныя дасьледаваньні, якія маюць за мэту атрыманьне дадзеных, неабходных для прыняцьця палітычных рашэньняў. Гэты від сацыялягічных дасьледаваньняў мусіць быць аб'ектыўным і незаангажаваным, павінны імкнуцца да аб'ектыўнага адлюстраваньня сацыяльнай рэальнасьці. У іншым выпадку, калі сацыёляг сьвядома альбо несьвядома скажае дасьледаваньне на карысьць замоўцы, сацыялягічныя дадзеныя могуць быць падставай для прыняцьця неэфэктыўных палітычных рашэньняў. Вынікам гэткагай "сэрвільнай" сацыялёгіі зьяўляецца параза ў палітычнай барацьбе.

Зразумела, у Беларусі сацыялягічныя дасьледаваньні палітыкі маюць сваю спэцыфіку. Аўтарытарная дзяржава неспрыяльна ставіцца да дасьледаваньняў грамадзкай думкі – нездарма ў савецкія часы сацыялёгія неафіцыйна лічылася "неблаганадзейнай" і была фактычна пад забаронай да канца 1950-х гадоў. На дадзены момант правядзеньне сацыялягічных дасьледаваньняў абмежаванае шэрагам прававых нормаў. Да нядаўняга часу ў краіне існавала толькі два незалежных ад дзяржавы сацыялягічных цэнтра – "Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў" і Лябараторыя аксыямэтрычных дасьледаваньняў "НОВАК". Увесну гэтага году "НІСЭПД" было зьліквідаванае судом за ўяўныя парушэньні заканадаўства, прычым сапраўднай падставай было распаўсюджаньне арганізацыяй сапраўдных вынікаў мінулагодняга рэфэрэндуму. Зараз НІСЭПД працягвае дзейнічаць на падставе рэгістрацыі ў Літве. У сваю чаргу, ўлада стварае ўласныя "сацыялягічныя цэнтры", вынікі дасьледваньняў якіх вядомыя загадзя.

Нягледзячы на неспрыяльнае становішча, напярэдадні мінулых палітычных кампаніяў сацыялягічныя мэтады выкарыстоўваліся палітычнай апазыцыяй дзеля атрыманьня ведаў пра стан грамадзтва. Нажаль, большасьць гэтых дасьледаваньняў ужо на стадыі іх распрацоўкі кіравалася памылковымі мэтадалягічнымі пасылкамі. Яны вынікалі не з недасканаласьці сацыялягічных прыладаў альбо хібаў мэтадалёгіі апытаньняў – недахопы былі ўжо ў самім поглядзе на структуру беларускага грамадзтва з пункту гледжаньня палітычных дзеяньняў:

**Клясычная схема ў Беларусі не працуе**

Традыцыйна наша палітычная сацыялёгія карысталася клясычным поглядам на структуру беларускага грамадзтва. У якасьці асновы для дасьледаваньняў браўся падзел грамадзтва на перакананых прыхільнікаў дэмакратычных ідэяў, перакананых "лукашыстаў" і гэтак званае "балота". Паводле розных сацыялягічных апытаньняў цьвёрды пра-дэмакратычны электарат складаў ад 10 да 32 % (на сёньняшні момант – 24 %), лукашысцкі сэгмент грамадзтва складаў ад 37 да 56 % (цяпер – 38%). Асноўная маса насельніцтва характэрызавалася як "нявызначыўшыяся": у перыяд палітычных кампаніяў 2001 – 2005 гадоў гэты сэгмент грамадзтва складаў ад 26 да 43 %, а у чэрвені гэтага году быў роўны 36,5%.

З улікам выкладзенай сэгментацыі грамадзтва палітычная апазыцыя рабіла выснову, што ключ да перамогі над дыктатурай ляжыць у агітацыі менавіта гэтай групы *няпэўных*. Маўляў, калі схіліць "балота" на бок дэмакратычнай альтэрнатывы і дэмакратычных каштоўнасьцяў, растлумачыць нашыя аргумэнты, данесьці сутнасьць таго, што адбываецца ў краіне - - электарат апазыцыі аўтаматычна перавысіць па колькасьці электарат Лукашэнкі, і гэта стане падставай для перамогі на выбарах. Такім чынам, наша асноўная ўвага ў часе перадвыбарчых кампаніяў была скіраваная менавіта на мэтавую групу нявызначыўшыхся. З улікам гэтага плянавалася палітычная стратэгія, з улікам гэтага распрацоўваліся агітацыйныя матэрыялы ды ўлёткі. Усе апошнія годы мы працавалі менавіта па гэтай схеме.

Аднак практыка паказала, што гэтая, традыцыйная для ўсіх выбарчых кампаніяў у сьвеце мадэль не працуе ва ўмовах кансалідаванае аўтарытарнае дыктатуры, якая абапіраецца на моцны ідэялягічна-прапагандысцкі апарат. Ва ўмовах татальнай прамыўкі мазгоў праз манапалізаваныя дзяржавай СМІ ды сыстэму дзяржаўнай адукацыі "балота" аўтаматычна схілялася на бок моцнага, прыходзіла на выбары й прымала агучаныя вынікі выбараў як сапраўдныя. Мы імкнуліся працаваць з тымі, хто ня вызначыўся, аднак яны нас ня чулі з-за абмежаванасьці нашых камунікацыйных магчымасьцяў. Ва ўмовах недаступнасьці медыяў і абмежаванасьці незалежных газэтаў, уціску на распаўсюднікаў улётак, забарону мітынгаў і складанасьцях пры арганізацыі кампаніяў "ад дзьвераў да дзьвераў" мы не маглі зрабіць звычайныя некалькі крокаў да шэраговага выбаршчыка. Часам ён увогуле не падазраваў, што апазыцыя імкнецца пераканаць яго на сваю карысьць.

Зь іншага боку, пры распрацоўцы нашых агітацыйных матэрыялаў мы бачылі іх адрасатам менавіта "выбарніка з балота" – і гэта кепска ўплывала на іх якасьць. Шэраговы грамадзянін пазытыўна рэагаваў на праграмы і прадукцыю "Пяцёркі плюс", аднак для яго не была зразумелая розьніца паміж гэтай праграмай і тым, што прапагандуе Лукашэнка. Калі спрасьціць сытуацыю, то й дзеючы прэзыдэнт у прынцыпе мог падпісацца пад большасьцю пунктаў гэтай праграмы. Мы імкнуліся схаваць і згладзіць вострыя моманты ў нашых улётках: не дай бог не спужаць абывацеля беларускай мовай, радыкальнай дэмакратычнай рыторыкай, "экстрэмісцкімі" заклікамі супраць саюзу з Расеяй. Такім чынам мы гублялі нашыя ідэялягічныя падмуркі, адштурхоўвалі нашых сапраўдных прыхільнікаў, пераконваючы іх ў каньюнктурным і папулісцкім характары нашай праграмы. Сапраўдныя і фундамэнтальныя каштоўнасьці нашай ідэялёгіі, заклікі да свабоды і справядлівасьці, патрабаваньні дэмакратызацыі палітычнага жыцьця й нацыянальнага адраджэньня пазьнікалі з нашых праграмаў – і гэта была

# Майдану

## Сэгмэнтацыя грамадзтва й радыкальнае палітычнае дзеяньне

намэнклятуры. Таксама ня мае сэнсу зьвяртацца да людзей, арыентаваных не на статус, а на прынцыпы – прынцыпы на тое і зьяўляюцца такімі, каб не мяняць іх пад уплывам вонкавых абставінаў. Такім чынам, палітычная альтэрнатыва мусіць зьвяртацца да тых людзей, якія арыентаваныя не на статус, не на прынцыпы, а на дзеяньні. Менавіта гатовых да выхаду на плошчу людзей можна схіліць да таго, каб яны выйшлі ў абарону справядлівасьці й годнасьці, супраць гвалту і хлусьні.

Зараз ужо ніхто ў дэмакратычных колах не разглядае магчымасьці перамогі выключна электаральным чынам – шлях да зьмены рэжыму палягае не ў колькасьці бюлетэняў, а ў колькасьці людзей "на майдане". Задача палітычнай альтэрнатывы падчас выбарчай кампаніі палягае ў тым, каб схіліць на свой бок актыўную, арыентаваную на дзейнасьць частку насельніцтва. Гэта патрабуе вызначэньня актыўнай і радыкальнай групы беларускага насельніцтва, іх арганізацыю ў межах палітычнай кампаніі і стварэньне тэхнічных умоваў да палітычнага дзеяньня. Вырашэньне гэтай задачы немагчымае без дапамогі сацыёлягаў. Аднак перад імі трэба паставіць менавіта канкрэтныя задачы па вызначэньні характару й памеру радыкальнай часткі грамадзтва, інакш нам ізноўку застанецца цешыцца пасьля выбараў зь велічэзных рэйтынгаў "адзінага кандыдата" і пераконваць сабе ў тым, што маральная перамога на нашым баку й наш апанэнт ізноў перамог нячэсна.

Пераможцаў не судзяць, а перамагае заўжды мацнейшы. Менавіта арыентацыя на радыкалаў дазволіць нам скарыстацца падтрымкай актыўнай часткі грамадзтва. Ня трэба імкнуцца схіліць на свой бок "балота" – большасьць пойдзе за намі тады, калі за намі будзе сіла дзеяньня. Нават актывізацыя радыкальнай чвэрці насельніцтва дае падставы разьлічваць на посьпех беларускага майдану.

вялізарная страта. Такая агітацыйная тактыка не схіляла на наш бок "балота", аднак балюча біла па іміджу нашай партыі, па маральным стане ды ідэалягічнай цьвёрдасьці наших прыхільнікаў.

Адной з праяваў гэтай тактыкі была арыентацыя на сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія сапраўды найбольш хвалююць грамадзянаў. Гэткая рыторыка была эфэктыўная падчас мясцовых выбараў 2003 года – і ў пэўным сэнсе яна спрыяла посьпеху некаторых фронтаўскіх кандыдатаў у той кампаніі. Аднак адваротным бокам мэдаля сталася абсалютызацыя сацыяльна-эканамічнай праблематыкі, якая абумовіла непераканаўчы характар нашых праграмаў у далейшым. Сапраўды выбаршчыкі вызначаюць прыярытэт менавіта матэрыяльных каштоўнасьцяў – аднак прапановы іх вырашэньня з боку апазыцыі адвяргаюць. Беларусы лічаць, што вырашэньне эканамічных праблемаў іх саміх і іх сем'яў – гэта іх уласная забота альбо абавязак дзяржавы. Яны выдатна разумеюць, што праблему кантрактызацыі, якая ўздымаецца апазыцыяй, можна вырашыць альбо ў індывідуальным парадку альбо праз дзяржаўныя структуры – для апазыцыі гэта праблема ёсьць толькі прыкметай агульнага характару дзеючага рэжыму.

### Шукайма радыкалаў!

У якасьці альтэрнатывы гэткай мадэлі працы мы прапануем паглядзець на грамадзтва ў іншым ракурсе. Магчыма, надыйшоў час зьвярнуцца да іншых візіяў сацыяльнай структуры дзеля плянаваньня наступнай агітацыйна-арганізацыйнай актыўнасьці ў часе будучай палітычнай кампаніі.

Напрыклад, адным з такіх альтэрнатыўных варыянтаў сэгмэнтацыі грамадзтва можа быць падзел па псыхаграфічных групах. Ён вызначае тыпы псыхалягічнага складу людзей, як агрэсіўных, падатлівых (канформных) і незалежных. Прычым прадстаўнікі гэтых псыхаграфічных тыпаў маюць розныя палітычныя погляды – у кожнай з гэтых групаў вы знойдзеце й перакананых лукашыстаў, і цьвёрдых дэмакратаў. У беларускім грамадзтве ў дадзены момант дамінуе другі з гэтых тыпаў, які характарызуецца патэрналісцкай палітычнай культурай, арыентацыяй на падпарадкаваньне. Прадстаўнікі гэтага тыпу схільныя чакаць ад уладаў вырашэньня іх праблемаў – і не настроеныя на артыкуляцыю сваіх палітычных патрабаваньняў. Менавіта таму агітацыйная хваля павінная арыентавацца на два іншыя тыпы, якія крытычна ставяцца да палітычнага жыцьця ўвогуле, альбо не прымаюць патэрналісцкую мадэль кіраваньня, якая зараз усталяваная ў дзяржаве.

Іншы ракурс погляду на грамадзтва – гэта падзел соцыюма па арыентацыях індывідаў на каштоўнасьці рознага кшталту. Гэта могуць быць каштоўнасьці статусу – і да гэткіх людзей бэзвынікова зьвяртацца з прапановай выйсьці ў першых шэрагах дэманстрантаў, паколькі сыстэма дзеючай улады прапануе значна больш высокія статусныя ролі у грамадзтве, магчымасьці кар'ернага росту і падвышэньня ўласнага статусу. Статусныя ролі функцыянэра апазыцыйнай партыі альбо прафэсійнага барацьбіта з рэжымам прывабліваюць толькі абмежаваную колькасьць асобаў незалежна ад іх палітычных пераканаьняў. Гэта выразна бачна ў сёньняшняй моладзі – тэхнакратычная і кар'ерысцкая частка моладзі абірае лукашызм разам з працай у дзяржаапараце не з-за прывабнасьці дзяржаўнай ідэалёгіі, а з-за прывабнасьці працы ў складзе істэблішмэнту, новай

Вынікі нацыянальнага апытаньня НІСЭПД (травень 2005, апытана 1510 рэспандэнтаў, пасылка не перавышае 0,03%)

**Як вы лічаце, ці ёсьць у Беларусі людзі, якія маглі б кіраваць краінай лепей за Лукашэнку і ягоны ўрад?**
ТАК – 37,6%
НЕ – 35,9%
Ня ведаю/складана сказаць – 26,6

**Як вы ставіцеся да людзей, якія публічна пратэстуюць супраць дзеяньняў уладаў?**
Адназначна падтрымліваю – 14,9%
Хутчэй падтрымліваю – 24,3%
Хутчэй не падтрымліваю – 28%
Адназначна не падтрымліваю – 21,1%



...пачатак са старонкі 2

# «БЫВАЮЦЬ ЮБІЛЕІ...»



***– Ці маеце асабістыя повязі зь юбілеем?***

– Мы арганізацыйна пачыналі ў 1979-м па-дысыдэнцку: самвыдавецкі часапіс "Люстра Дзён", перадрук і распаўсюд міжваенных беларускіх тэкстаў, пошук аднадумцаў па Беларусі, а потым ва Украіне й Літве. Затоіўшы дых слухалі ў 1980-м глушанае радыё на ўсіх даступных мовах; зрэшты, тады змушаныя былі нешта казаць польскія дзяржаўнае радыё ды газэты, якія - недагляд! - можна было купіць ці выпісаць у нас. Я чытаў „Sztandar miodych". Лавілі кожнае імя, кожную вестку, кожны крок страйкоўцаў. Пісалі ў пераходах слова "Салідарнасьць". Дагэтуль захоўваю іхныя патрабаваньні з 21 пункту. Гданьскі Жнівень стаў штуршком да сур'ёзнага мысьленьня пра палітычную практыку, ня толькі пра дысыдэнцтва. У 1983 годзе нашая падпольная "Група Незалежнасьць" прыняла прынцыповае рашэньне ствараць усюды, дзе магчыма, легальныя арганізацыі (праз якія распаўсюджваліся ідэі ды выданьні самой групы), а таксама распаўсюджваць самвыдавецтва на прадпрыемствах (Сяржук Сокалаў-Воюш рабіў гэта ў Наваполацку). Неўзабаве, літаральна за 2-3 гады, колькасьць суполак, гурткоў, клюбаў дасягнула шасьці дзясяткаў (у 1988 яны сталі структурнаю асноваю БНФ). З выхадам на рабочых было цяжэй, але намаганьні рабілі: так, Віктар Івашкевіч стварaў структуры ў Менскім чыгуначным дэпо. Паўнавартасныя рабочыя арганізацыі ўзьніклі разам з абвешчаньнем Беларускага Народнага Фронту.

Першыя мае асабістыя кантакты з палякамі сягаюць 1986-87 гадоў; гэта былі людзі з Канфэдэрацыі незалежнай Польшчы (KPN). Крыху пазьней мы пазнаёміліся з маладымі лідэрамі беларусаў Беласточчыны, якія, як Алег Латышонак, адсядзелі сваё ў ярузэльскіх турмах. Але ўжо былі іншыя часы, калі падзеі разьвіваліся імкліва ў абедзьвюх краінах.

***– Як была прадстаўленая на юбілеі Расея?***

– Паважаны Сяргей Кавалёў, які прадстаўляў у Гданьску Расею, прызнаўшыся ў сваіх заходнебеларускіх - польскіх, як ён лічыць, - каранях, сказаў со скрухаю, што ў Расеі не было «Салідарнасьці», бо расейскія дысыдэнты ставілі сабе за мэту дамагацца сваёй унутранай свабоды, але менш дбалі, каб унутраная свабода выйшла вонкі, зьмяніла сыстэму й тым самым вызваліла іншых.

Афіцыйных лідэраў Расейскай Фэдэрацыі на сьвяце не было; былі прэзыдэнты й прэм'еры ўсіх краінаў Эўразьвязу, высокія прадстаўнікі Злучаных Штатаў і Канады, старшыня Эўракамісіі Ж.Д.Барозу. Аднак расейская тэма была прысутная ў выступах высокіх гасьцей і гаспадароў сьвята. Навукоўцы адзначалі паўтарэньне Пуціным Лукашэнкавага шляху й небясьпеку аднаўленьня імпэрскіх настрояў. На ўрачыстай вячэры й на вялікім сьвяткаваньні ў Балтыйскай філармоніі праф. Зьбігнеў Бжэзінскі сказаў пра дэмакратычную пэрспэктыву недэмакратычных Расеі ды Беларусі – менавіта гэтак, у пары. Я зьдзіўлена задаў яму адпаведнае пытаньне пасьля; прыватна Бжэзінскі сказаў мне, што Беларусь, безумоўна, мае шанец прыйсьці да дэмакратыі раней, чым Расея. Ніхто не выказваў ідэю пра ўдзел Расеі ў спрыяньні дэмакратычным пераўтварэньням у суседніх краінах, у тым ліку ў нас.

***– А што пра нас?***

– Я выступіў з дакладам на Міжнароднай канфэрэнцыі "25 гадоў Салідарнасьці – урокі барацьбы за свабоду", зладжанай Новай атлянтычнай ініцыятывай Амэрыканскага інстытуту прадпрымальніцтва (гэтая арганізацыя тры гады таму правяла ў Вашынгтоне канфэрэнцыю "Вось зла: Беларусь – зьвяно, якога нестае") пры ўдзеле Леха Валэнсы. Сказаў, што цяпер ужо трэба гаварыць пра Беларусь як зьвяно, якога нестае ў балтыйска-чарнаморска-каспійскай "дузе свабоды й надзеі".

Паседжаньне Бюро фракцыі правацэнтрысцкай Эўрапейскай народнай партыі – Эўрапейскіх дэмакратаў (ЭНП-ЭД), якая цяпер складае большыню ў Эўрапейскім парлямэнце, таксама адбылося ў Гданьску й таксама з удзелам Валэнсы й кандыдата ў прэзыдэнты Польшчы, лідэра партыі Грамадзянская плятформа (Platforma Obywatelska, PO) Дональда Туска. У першай сэсіі "Эўразьвяз і новыя суседзі" поруч з кіраўніком фракцыі Гансам-Гертам Пётэрынгам, прэм'ерам Харватыі (якая стаіць у чарзе на ўступ у ЭЗ) Іва Санадэрам, лідэрамі вугорскай партыі FIDESZ Віктарам Орбанам, чэскай ODS Міркам Тапаланкам, малдаўскай Народнай партыі хрысьціянскіх дэмакратаў Юрые Рошкам выступілі мы з спадаром Шушкевічам. Распавялі пра яднаньне беларускіх дэмакратычных сілаў, рэальныя настроі ў грамадстве, раскрытыкавалі рашэньне Эўракамісіі падтрымаць расейскамоўнае перадаваньне для Беларусі.

Выступы ў дыскусіі былі вельмі прыхільныя для нас. ЭНП стаіць у абароне дэмакратыі, традыцыйных эўрапейскіх каштоўнасьцяў, уласнасьці, незалежнасьці, нацыянальных моваў ды ідэнтычнасьцяў. Сп. Пётэрынг падсумаваў: "Мы будзем на вашым баку". Выступоўцы заклікалі прыслухоўвацца да нас, прымаючы канкрэтныя рашэньні пра дапамогу дэмакратычным сілам. Так, славацкая дэпутатка Эўрапарлямэнту сп-ня Анна Забарска нагадала, што хоць славацкая й чэская мовы вельмі блізкія (дадам, значна бліжэйшыя між сабой, чым беларуская з расейскаю), тым ня менш усе заходнія радыёстанцыі перадавалі для славакаў па-славацку, бо гэта было само па сабе важным знакам разуменьня іхных памкненьняў і павагі да іх.

Віцэ-сьпікер Эўрапарлямэнту Яцэк Сар'юш-Вольскі сфармуляваў тры тэзы. Усё пачалося ў Гданьску. Пачатае мусіць пайсьці далей – напрыклад, у Беларусь і Украіну. А "Мэтад Салідарнасьці" – мірныя зьмены – можа пасьпяхова стасавацца і да іншых краінаў шырэйшага эўрапейскага суседзтва.

Партыя "Грамадзянская плятформа" зладзіла збор сэймавае фракцыі ды лідэраў Гданьскай арганізацыі (відавочна, апошні перад выбарамі, дзе партыя мае шанец на перамогу). На паседжаньні запрасілі выступіць і мяне. Сярод іншага, я падкрэсьліў безумоўную салідарнасьць Фронту з сапраўднымі лідэрамі Саюзу палякаў Беларусі й сказаў, што меншасьці павінны быць мастом паміж краінамі, а ня палівам для Лукашэнкі, які спрабуе распаліць канфлікты, дзе іх ніколі не было.

Бачу, што павагу грамадства ў Польшчы захавалі менавіта тыя палітыкі, якія не разьменьваліся на каньюнктуру. Яны пераможуць на бліжэйшых выбарах. Нельга ахвяроўваць каштоўнасьцямі, здрада прынцыпам вернецца бумэрангам. Нам, Партыі БНФ, ніхто ня можа закінуць, што мы "былыя", што працавалі на камуністычную ўладу ці на лукашэнкаўскі рэжым, што здраджвалі беларушчыне дзеля папулізму. Нас таму й паважаюць нашыя аднадумцы ў сьвеце, што Партыя БНФ моцная сваімі прынцыпамі, а разам з тым сучасная, дагавора- і дзеяздольная.

Свае выступы я заканчваў словамі:

*"Адным з гімнаў "Салідарнасьці" былі "Муры" Яцка Качмарскага. Вось як гучыць рэфрэн песьні ў перакладзе найбуйнейшага беларускага паэта нашага часу Рыгора Барадуліна, чые вершы Лукашэнка выкрэсьлівае з школьных праграмаў, але каго беларусы мараць пабачыць Нобэлеўскім ляўрэатам:*

*"Зубы кратаў рві мурам,*
*Не паддавайся бізунам!*
*Муры глухія рухнуць, рухнуць –*
*І новы сьвет зазьзяе нам!"*



# Жыве Беларусь!

**А.БАРЫСАЎ,**
сябра арганізацыі
"Правы альянс"

На зыходзе 1512 году Маскоўская дзяржава распачала новую вайну за «исконі русские земли» - Беларусь і Украіну, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

Фарпостам Княства на ўсходзе быў старажытны беларускі горад Смаленск. У ліпені 1514-га яго ўзяло ў аблогу велізарнае 80-тысячнае войска маскоўцаў, папоўненае наёмнікамі з заходнезўрапейскіх краінаў. Па гарадзкіх умацаваннях амаль бэзперапынна білі трыста гарматаў. Ваявода Юры Салагуб капітуляваў.

Натхнёны посьпехам, маскоўскі князь Васіль III кінуў свае войскі ўглыб Беларусі. Здаліся ворагу Крычаў, Амсціслаў і Дуброўна. Крамлёўскі валадар быў настолькі ўпэўнены ў сваёй перамозе, што пад час адной з застоліц загадаў сваім ваяводам «войскі літоўскія і польскія з каралём да Масквы як быдла пугамі гнаць». Над дзяржаваю сапраўды навісла сьмяротная небясьпека.

Вялікі князь Зыгмунт Стары здолеў сабраць пад свае сьцягі ў Менску толькі трохі болей за 30 тысячаў вояроў. Тут былі 16 тысячаў коньнікаў паспалітага рушаньня Вялікага Княства пад кіраўніцтвам славутага гетмана Канстанціна Астрожскага, 14 тысячаў польскіх конных жаўнераў, тры тысячы найманай пяхоты і 2500 шляхціцаў-добраахвотнікаў з Польшчы. Зыгмунт з чатырохтысячным войскам застаўся ў Барысаве, а асноўныя сілы на чале з Астрожскім рушылі насустрач варожай ардзе. Пры канцы жніўня адбыліся першыя сутычкі з ворагам на рэках Бярэзіне, Бабры і Друці.

Пасьля некалькіх паразаў расейскае войска спынілася паміж Воршай і Дуброўнай на рэчцы Крапіўне. Тут і адбылася вырашальная бітва. Частка коньніцы Астрожскага ўброд і наўплаў - бяз стратаў - пераправілася цераз Дняпро. Астатнія коньнікі, пяхота й артылерыя пераадолелі раку трохі вышэй, па таемна наведзеным наплыўным мосьце. Палкі Канстанціна Астрожскага пачалі шыхтавацца насупраць стану маскоўцаў уначы з 7 на 8 верасьня. У цэнтры гетман паставіў 16 тысячаў ліцьвінскай коньніцы, па баках - палякаў. Наперадзе былі сабраныя сама трапныя стралкі.

На досьвітку пад гукі трубаў і бубнаў маскоўскія ваяводы Чаляднін і Булгакаў-Голіца павялі палкі ў першую атаку. Астроскі зьвярнуўся да сваіх вояроў з кароткай гарачаю прамовай: «Мужныя рыцары! Няхай доблесць і мужнасць вашыя будуць вартыя слаўных бацькоў!..»

Няўдача першай атакі ня надта зьбянтэжыла Чаляднiна і Голіцу: у іх была амаль трохразовая перавага - 80 тысячаў супраць 30. Такая самаўпэўненасьць саслужыла ваяводам дрэнную службу. Яны кепска ўзаемадзейнічалі й нават не лічылі патрэбным дапамагаць адзін аднаму. Калі вояры Астрожскага ўдарылі па палках Булгакава-Голіцы, Чаляднін ад бою ўхіліўся, а калі ўдар абрынуўся на ягоных вояроў, Голіца адплаціў тым самым.

Спроба абысьці нашае войска і наляцець з тылу не ўдалася, і маскоўскія ваяводы кінулі на праціўніка галоўныя сілы. Сеча дасягнула найвышэйшага напалу. Гетман быў сярод сваіх жаўнераў. Ягоная ўзьнятая над галавою булава дадавала мужнасьці слабейшым.

І раптам здарылася нечаканае: коньніца Астроскага завагалася, спыніла націск, а потым і наагул пакацілася назад. Расьцягнутыя баявыя парадкі маскоўцаў з пераможнымі крыкамі перайшлі ў наступ. Колькі хвілінаў коньнікі й сапраўды ўцякалі, а тады зьнячэўку крута павярнулі ўбок. Расейская дваранская коньніца апынулася перад пакінутымі ў засадзе гарматамі.

Сьмяротны град артылерыі спыніў атаку. Чужынцы, зьбіваючыся ў бязладныя натоўпы, замітусіліся і паказалі нядаўнім «уцекачам» сьпіны. Коньніца Астрожскага расьсекла сьціжму заваёўнікаў на часткі і расьсеяла іх па шырокім прырэчным полі. Ворагаў гналі і секлі яшчэ пяць вёрстаў. Вада ў Крапіўне пачырванела ад крыві і, паводле паданьня, выйшла зь берагоў, бо целы мноства забітых загацілі раку. Шмат хто знайшоў сваю сьмерць у Дняпры, у навакольных лясах і балотах.

Летапісы і кронікі паведамляюць, што маскоўская раць страціла забітымі блізу 40 тысячаў. Чаляднін, Булгакаў-Голіца і яшчэ восем ваяводаў трапілі ў палон. Разам зь імі ў руках у пераможцаў апынуліся дзьве тысячы «дзяцей баярскіх» і тры тысячы шэраговых воінаў. Прыгаломшаны весткаю пра поўны разгром свайго войска, Васіль III абвесьціў, што ўсе палонныя для яго - мёртвыя, і кінуў іх на вырак лёсу. Булгакаў-Голіца вярнуўся ў Масковію толькі ў 1552 годзе.

Аршанская бітва стала адной з найбуйнейшых у Эўропе XVI стагодзьдзя. Бліскучая перамога нашай зброі аддала ініцыятыву вайны ў рукі Вялікага Княства. Усе захопленыя маскоўцамі гарады, апроч Смаленска, былі вызваленыя. Пачаў развальвацца накіраваны супраць Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага таемны альянс Маскоўшчыны і эўрапейскіх дзяржаваў. Крымскія татары, уражаныя перамогаю пад Воршай, на два гады спынілі набегі на Княства і павярнулі сваіх коней у бок Маскоўшчыны.

У снежні 1514 года вялікі гетман Канстанцін Астрожскі трыюмфальна ўступіў у сталіцу дзяржавы Вільню. У гонар перамогі на ягоныя сродкі там былі збудаваныя праваслаўныя храмы Сьвятой Тройцы й Сьвятога Мікалая, якія захаваліся дагэтуль.

Празь некалькі гадоў пасьля перамогі невядомым мастаком было створанае жывапіснае батальнае палатно, на якім адлюстраваны адзін з эпізодаў сечы. На карціне, што захоўваецца цяпер у Нацыянальным музеі ў Варшаве, можна ўбачыць баявыя бел-чырвона-белыя сьцяжкі беларускіх вояроў. Гэта першая па часе выява нашага нацыянальнага сьцяга.

У гэты дзень мы, патрыёты Айчыны, ушаноўваем выбітных дзеячоў нашай Бацькаўшчыны, якія праз усё сваё жыцьцё, як і героі Аршанскай бітвы, пранесьлі сьветлую ідэю незалежнасьці нашай краіны. Гэтым учынкам мы падкрэсьліваем пераемнасць пакаленьняў.

Віншуем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь з Днём Беларускай Вайскавай Славы. Жыве Беларусь!

# Газэта моладзі Партыі БНФ





**Каця МАРКОЎСКАЯ,**
студэнтка

Сярод партыйнае й каляпартыйнае моладзі БНФ некалькі месяцаў таму пачалася актыўная арганізацыйная праца дзеля стварэньня й наданьня афіцыйнага статусу «падрыхтоўчым курсам» Партыі БНФ -- для палітычна зацікаўленых і пэрспэктыўных маладых людзей. Гаворка пра нефармальнае згуртаваньне «Моладзь БНФ». Адначасова пачалася й унутрыпартыйная дыскусія пра тое, як павінна выглядаць гэтая структура (ці група). І гэта добра. Падчас выпрацоўкі канцэпцыі й праграмы, плянаваньня бліжэйшай дзейнасьці было вырашана сіламі камісіяў (такіх, як навучальная, праграмная, агітацыйная, культурніцкая, камісія сувязяў з грамадзкасьцю) стварыць Рэдакцыйную раду (ці рэдкалегію) газэты Моладзі БНФ. Сярод маладых людзей, якія зьбіраюцца на паседжаньні дыскусійнага клюбу, арганізатары й частка ўдзельнікаў якога - маладыя сябры Партыі БНФ, сярод тых, хто бярэ непасрэдны ўдзел у жыцьці партыі, ёсьць людзі, зацікаўленыя ва ўласным друкаваным выданьні. І гэта зноўку добра. Бо выданьне магло б аб'ядноўваць ангажаваную моладзь вакол актуальных праблемаў, тлумачыць і камэнтаваць падзеі ў Партыі, у нашай краіне ды за яе межамі, а таксама стаць паўнавартасным друкаваным органам Моладзі БНФ.

### Што маем

Сьвежы прыклад спробы стварыць такую газэту – «інфармацыйна-аналітычнае выданьне для моладзі «Рух». Але, дажалю, няўдалы. Гэта якраз прыклад, да якога ня мусім імкнуцца. «Рух» ня ёсьць прадуктам дзейнасьці сталай Рэдакцыйнай камісіі, яго канцэпцыя не абмяркоўвалася на паседжаньні Моладзевай камісіі Партыі БНФ. Дый увогуле, на лягатыпе «Руху» ня значыцца прыналежнасьць яго да якой-небудзь арганізацыі. Аднак жа вэб-сайтам газэты пазначаны сайт Партыі БНФ. Кіраўніцтва партыі даведалася пра газэту толькі пасьля яе выхаду.

Зьдзіўляе зьмест. Чаму «Рух» на першай жа старонцы першага ж нумару гэтак актыўна заклікае «гартаваць новую эліту, якая будзе пазбаўлена комплексу паразы й нарэшце ўсьвядоміць, што перамога павінна дасягацца ня толькі «у сэрцах» ды іншых частках цела электарату»? На мой погляд, гэта супярэчыць зацьверджанай Соймам канцэпцыі «Моладзі БНФ». Мы бачым франтаўскую моладзь не агрэсіўнымі маладзёнамі-нэафітамі, якія прагнуць канфліктаваць з «правячымі вярхамі», а моладзьдзю, якая сьвядома шануе традыцыі Фронту, не распальвае штучных «канфліктаў пакаленьняў», а ўмее супрацоўнічаць з аднапартыйцамі незалежна ад іхнага ўзросту, і, вядома, падпарадкоўваецца рашэньням Сойму і Статуту Партыі БНФ пры захаваньні аўтаноміі ўласнае дзейнасьці - сярод моладзі й з моладзьдзю. А хто ж, калі ня самі маладыя людзі, лепей зразумеюць аднагодкаў і данясуць да гэтай часткі грамадзтва нашыя каштоўнасьці?

Нават калі не зважаць на кепскае тэхнічнае і мастацкае афармленьне «Руху» (гэта ёсьць нашай агульнай праблемай, якую мы мусім вырашыць), кідаецца ў вочы адсутнасьць канцэпцыі й структуры выданьня. Набор не зьвязаных паміж сабой навінаў займае ледзь не палову газэты, прычым на кожнай старонцы шмат арфаграфічных памылак. Стыль хутчэй няўдала насьледуе сьцёб анархістаў, чым паказвае, што правацэнтрысцкая моладзь мае апірышчам культурны грунт.

Не, я зусім ня супраць газэты «Рух». Проста хацелася б, каб, па-першае, у яе выходных зьвестках не было прозьвішчаў людзей, якія не ўваходзяць у рэдкалегію (маю на ўвазе самую сябе), і па-другое, каб газэта, якая называе сабе газэтай Моладзі БНФ, была сапраўды якасным і дыхтоўным выданьнем.

### Плян дзеяньняў

Першая задача Моладзевай камісіі на бліжэйшы час палягае ў тым, каб зацьвердзіць Рэдакцыйную раду газэты. Яна ў сваю чаргу вызначыць назву, акрэсьліць канцэпцыю й структуру газэты з указаньнем яе мэтаў, пэрыядычнасьці, рубрыкаў. Гэта не азначае, што газэта мусіць стварацца толькі сябрамі Рэдакцыйнай рады, да яе здолеюць далучыцца ўсе ахвотныя. Але мусяць быць адказныя за выхад газэты ў час, за падбор аўтараў, напісаньне тэкстаў, за арганізацыю інтэрвію з нашымі старэйшымі калегамі па партыі, рэпартажаў зь цікавых імпрэзаў, ды за шмат што яшчэ.

На мой погляд, газэта Моладзі БНФ павінная выконваць наступныя функцыі:

– інфармаваць моладзь пра значныя падзеі, партыйнае жыцьцё. Мабілізаваць моладзь ў неабходных сытуацыях. Быць інфармацыйным каналам навучальнай, агітацыйнай ды іншых камісіяў, распаўсюджваць тэзы паседжаньняў дыскусійнага клюбу;

– адукоўваць, а таксама натхняць людзей да працы, спрыяць вызначэньню іх асабістых палітычных каштоўнасьцяў, папулярызацыі й прамоцыі франтаўскіх традыцыяў і дасягненьняў, кансэрватыўных дэмакрытычных каштоўнасьцяў;

– служыць дыскусійнаю трыбунаю для маладых франтаўцаў, якія маюць што сказаць сваім раўналеткам;

– анансаваць значныя падзеі (канцэрты беларускіх гуртоў, палітычныя й грамадзкія акцыі, імпрэзы, вечарыны інш.)

Будуць цікавыя тэматычныя рубрыкі (напр. гісторыя, мова, этнаграфія, кампутары, мода і інш.), за кожную зь якіх можна будзе прызначаць адказнага ўжо ў межах Рэдакцыйнай калегіі газэты Моладзі БНФ.

Прапаную наступную структуру арганізацыі Рэдакцыйнай калегіі: кіраўнік, галоўны рэдактар (ён жа старшыня Рэдакцыйнай калегіі), рэдактары асобных тэматычных рубрыкаў.

Пажадана, каб рэдкалегія была падсправаздачная каму-небудзь са старэйшых дасьведчаных у журналістыцы сяброў Партыі БНФ (напр. сп. Віктару Івашкевічу).

Канчаткова вызначаць, якой павінна быць газэта Моладзі БНФ, найлепей у як мага шырэйшым коле зацікаўленых, каб пачуць болей ідэяў і прапановаў. Запрашаю да дыскусіі!

# ПРЫВІД АЭС

Юры Гембіцкі

Тое, пра што нядаўна яшчэ гаварылі шэптам і ў кулюарах, становіцца ўжо амаль рэальнасьцю. Згодна з новай канцэпцыяй энэргетычнай бясьпекі, якую зацьвердзіў Аляксандр Лукашэнка, Беларусь да 2010 году, хутчэй за ўсё, будзе будаваць атамную электрастанцыю.

З аднаго боку, энэргетычная незалежнасьць ад расейскага газу – гэта добра, бо на 85 % паліва ў Беларусь прыходзіць сёньня з Расеі. Але сваімі рукамі будаваць АЭС, якія зачыняюць усе нашыя суседзі з-за таго, што іх праца зьвязаная зь вельмі высокай рызыкай – ці не вар'яцтва? Былі ж пляны пабудаваць вялікую электрастанцыю на вуглі, некалькі гідраэлектрастанцыяў, але на сёньня ў Міністэрстве энэргетыкі пераважвае варыянт АЭС. Бо ён пераважвае ў Лукашэнкавай галаве.

Досыць сьмешна выглядаюць заявы пра тое, што, калі вырашаць будаваць АЭС, будзе праведзенае апытаньне насельніцтва. Як такія апытаньні робяцца, усе добра ведаюць.

На мінулым тыдні гендырэктар канцэрну "Белэнэрга" Сяргей Белы таксама назваў ідэю будаўніцтва АЭС у Беларусі "пэрспэктыўнай". Пры гэтым цікава, што, гаворачы пра неабходнасьць будоўлі АЭС, сп. Белы адначасова кажа пра тое, што будаваць пачнуць не раней за 2008 год. Маўляў, грамадзтва трэба маральна падрыхтаваць. Пакуль пляцоўка пад будоўлю яшчэ не вызначаная. Але ўжо вядома, што будаваць АЭС будзе заходнеэўрапейская кампанія.

# СНД "сыпецца"



Барыс ЖАЛІБА,
доктар эканамічных навук, сябра Сойму Партыі БНФ

Апошні саміт кіраўнікоў краінаў СНД у Казані можна назваць апатэозам працэсу дэзынтэграцыі СНД. Туркмэнія выходзіць, наступная Грузія, у чарзе – Украіна.

Саміты СНД у народзе празвалі "клюбам прэзыдэнтаў" – сустрэнуцца, наведаюць разнастайныя цікавыя аб'екты, пажартуюць за кілішкам кавы й разьедуцца. Ніякага плёну. І апошні саміт у Казані ня стаў выняткам, тым больш што ён праходзіў на фоне тысячагодзьдзя гораду. Між іншым, ён высьветліў шэраг паваротных момантаў, якія сьведчаць пра відавочны заняпад Садружнасьці. Па-першае, гэта заява прэзыдэнта Туркмэністану Сапармурата Ніязава пра выхад краіны з СНД з захаваньнем статусу г.зв. асацыяванага сябры. Па-другое – пад знакам запытаньня апынулася далейшае знаходжаньне ў складзе арганізацыі Грузіі, кіраўніцтва якой, як вядома, ўзяло курс на Захад, на ўступ у ЭЗ".

Але галоўная небясьпека для СНД палягае ў пэрспэктыве выхаду з гэтай страуткры Украіны. Пакуль пра гэта вядзецца толькі ў кулюарах, але пра магчымы выхад нашага паўднёвага суседу з Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП) ўжо было абвешчана. Па сутнасьці гэта будзе азначаць выйсьце з СНД, а гэта фактычна прывядзе да краху Садружнасьці. Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што СНД сёньня трымаецца збольшага на ваенна-палітычным грунце, эканамічны складнік амаль ніяк сабе не праяўляе. А краіны робяць стаўку на саюзы дзьвюх, трох, чатырох і болей дзяржаваў, якія ёсьць вельмі нетрывалымі.

Дарэчы, нагадаю, што пагадненьне аб ўтварэньні Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП) было падпісанае 19 верасьня 2003 году ў Ялце Аляксандрам Лукашэнкам, Уладзімерам Пуціным, Леанідам Кучмам і Нурсултанам Назарбаевым. Згодна зь ім паміж чатырма краінамі павінна была быць сфармаваная зона вольнага гандлю, адзінае эканамічнае заканадаўства й макраэканамічная палітыка. Нічога з вышэйзгаданага пакуль так і ня ўтворана.

Юры Гембіцкі

# І адным абзацам

## Браць ці ня браць?

У гэтым годзе больш, чым на 28 % (ці на 543 мільярды рублёў) вырас агульны аб'ём крэдытнай запазычанасьці грамадзянаў банкам. Калі пералічыць агульную лічбу пароўну на ўсіх жыхароў краіны незалежна ад ўзросту, атрымаецца па 253 тысячы рублёў (118 даляраў). Больш за ўсё за год вырасла колькасьць крэдытаў на спажывецкія тавары. Іх яшчэ можна тсабе дазволіць, хай нават й у крэдыт.

## Будаваць ці ня будаваць?

Днямі стане вядома, ці будзе будавацца ў Менску новая тэлевізійная вежа. Ініцыятыва ў гэтым належыць міністру сувязі Уладзімеру Ганчарэнку. Але ўрад на мінулым тыдні не падтрымаў яго ідэю, бо гэта надта дорага, а ў нас і так у гэтым стагодзьдзі шмат ужо што будуецца – бібліятэка, пляц Незалежнасьці, сотні аграгарадкоў. Нагадаем, вежа павінная была быць ў вышыню больш за 220 мэтраў. Зрэшты, чаму была? Праз колькі дзён гэтае пытаньне канчаткова вырашыць А.Лукашэнка. Калі грошай няма ва ўраду, дык чаму б ім ня быць ў прэзыдэнта?








# Раскіданае гняздо

Юры Гембіцкі

Новым кіраўніком Саюзу палякаў на Беларусі стаўся 69-гадовы Юзэф Лучнік, абраны бэз альтэрнатывы 27 жніўня на "паўторным" VI зьезьдзе СПБ ў Ваўкавыску. Зазначым, што горад падчас зьезду быў закрыты для ў'езду ды ацэплены міліцыяй.

Сп. Лучнік усяляк пазьбягае камэнтароў на палітычныя тэмы, заяўляе, што арганізацыя адгэтуль будзе займацца толькі школьніцтвам, адукацыяй і культурай. Зрэшты, яна гэтым заўсёды й займалася. Пакуль яе не ўзначаліў Тадэвуш Кручкоўскі, вядомы сваімі заявамі пра тое, што "беларускай нацыі ня існуе. А ёсьць толькі вялікія руская й польская нацыі". Лучнік ёсьць нашмат менш адыёзным, больш таго, ён разам з Тадэвушам Гавіным напрыканцы 80-х спрычыніўся да стварэньня Саюзу палякаў. Яны нават былі сябрамі. Але як жа успрыняць тое, што Лучнік быў абраны старшынём Саюзу палякаў у той жа час, калі яго першы старшыня Тадэвуш Гавін (які быў старшынём СПБ з 1988 да 2000 гг) сядзеў у турме за тое, што выступіў супраць здачы СПБ "пад уладу"? Гарадзенскія журналісты распавялі, што Лучнік зьяўляецца дробным землеўладальнікам, маючы сваю фэрмэрскую гаспадарку. І за некалькі дзён да "перазьезду" да яго прыйшлі раённыя начальнікі й сказалі, што зямельны надзел набыты з парушэньнем заканадаўства. Маўляў, ідзі на старшыню, альбо канфіскуем зямлю. Пасьля зьезду Лучнік публічна адрокся ад Гавіна, сказаўшы, што не адказвае за яго погляды й ня падзяляе іх.

Пасьля гэтага "зьезду", большасьць дэлегатаў якога ўвогуле не валодалі польскай мовай, міністар замежных справаў Польшчы Адам Ротфэльд заявіў, што падтрымлівае кіраўніцтва, абранае на зьезьдзе ў сакавіку на чале з Анжалікай Борыс (той зьезд, нагадаем, не прызнала беларуская ўлада). "Польшча не пакіне спн. Борыс і яе паплечнікаў ў сытуацыі, у якой яны залежылі б ад аўтакратычнага ды супрацьпастаўленага асноўным прынцыпам прававой дзяржавы ладу кіраваньня групы, якая кіруе зараз у Беларусі. А цяперашні афіцыйны Саюз палякаў ня мае нічога супольнага з няўрадавай арганізацыяй. Дэлегаты на зьезд былі дэлегаваныя ўладай", — такі тэкст зьмешчаны на інтэрнэт-старонцы МЗС Польшчы.

Кіраўнік польскага МЗС таксама абвесьціў намер польскіх афіцыйных асобаў патлумачыць тое, што адбылося з Саюзам палякаў на Беларусі кіраўніцтву заходнеэўрапейскіх краінаў і Эўразьвязу.

Да таго ж Польшча больш ня будзе фінансаваць Саюз палякаў . Штогод польскі сэнат вырашае, колькі сродкаў даць, а выконваюць гэтае рашэньне няўрадавыя арганізацыі, такія як "Польскае таварыства", фонд "Дапамога палякам на Ўсходзе", Фонд дапамогі дзецям Гарадзеншчыны, а таксама арганізацыя "Сэмпэр Палёнія". Праз іх сродкі ішлі на рахунак СПБ, а далей – на навучальныя дапаможнікі для польскіх школаў, стыпендыі, фэсты польскіх мастацкіх калектываў, на будаўніцтва й утрыманьне школаў ды Дамоў польскіх. Сплата электрычнасьці, газу, тэлефону, рэмонты – на ўсё гэта ўрад Польшчы больш ня дасьць ані злотага.

Між іншым на гэты год сума зь польскага бюджэту, заплянаваная на падтрымку СПБ склала 2, 42 млн злотых (ці 620 тысячаў даляраў). А зь 1989 году польскі сэнат ахвяраваў палякам, якія пражываюць у Беларусі каля 29 мільёнаў злотых (ці амаль 9 мільёнаў даляраў).

Юзэф Лучнік тымчасам адразу пасьля свайго абраньня заявіў, што асноўнай крыніцай фінансаваньня дзейнасьці ГА "Саюз палякаў на Беларусі" стануць сродкі дзяржаўнага бюджэту Беларусі й сяброўскія складкі. Наконт апошняга раім сп. Лучніку асабліва не спадзявацца. Толькі калі колькасьць сябраў аб'яднаньня застанецца ранейшай (а яна дакладна паменшыцца на некалькі тысячаў чалавек), і калі сябры аб'яднаньня будуць штомесяц сплочваць па 5 тысячаў (што таксама хутчэй фантастыка), дык агулам сума наблізіцца да той, што выдаткоўвае польскі ўрад. Але відавочна складкі не перавысяць 1 тысячы на месяц, а колькасьць сябраў з 25 тысячаў ў хуткім часе скараціцца напалову. Так што карміць "дзяржаўных палякаў" будзе рэспубліканскі бюджэт, то бок мы з вамі.

Хутчэй за ўсё, кіраўніцтву праўладнага Саюзу палякаў будзе адмоўлена ва ўезьдзе ў Польшчу. Магчыма, часова. Але ў кожным разе арганізацыяў цяперака будзе дзьве. Нават намесьнік старшыні МЗС Польшчы Ян Трушчыньскі падкрэсьліў, што "нідзе не сказана, што польскіх арганізацыяў ня можа быць больш за адну". Ён таксама паведаміў, што яго краіна падтрымлівае кіраўніцтва, якое было абрана ў сакавіку "законна ды ў адпаведнасьці з правіламі", і якое зараз пазбаўлена магчымасьці ажыцьцяўленьня свайго мандату. «Мы лічым гэты зьезд недэмакратычным, а кіраўніцтва — як людзей, якія не прадстаўляюць палякаў ў Беларусі, бо мэтады, якія выкарыстоўваліся падчас гэтай імпрэзы, нагадваюць практыку польскіх уладаў ў пачатку 80-х гадоў і крыху раней", — сказаў Ян Трушчыньскі.

**Юры Гембіцкі**

# Нямеччына паварочвае направа



18 верасьня ў Нямеччыне адбудуцца датэрміновыя парлямэнцкія выбары. Галоўнае спаборніцтва традыцыйна пройдзе паміж блёкам ХДЗ / ХСЗ і сацыял-дэмакратамі.

Хутчэй за ўсё перамогу гэтым разам (празь 9 гадоў з таго часу, як Гельмута Коля зьмяніў на пасадзе фэдэральнага канцлера Гэрхард Шродэр) будуць сьвяткаваць кансэрватары на чале з 51-гадовай Ангэляй Мэркель. Дарэчы, калі гэта здарыцца, урад ў Нямеччыне ўпершыню ачоліць жанчына. Ангэля Мэркель нарадзілася ў Гамбурзе. Гадавалася й доўгі час жыла ў ГДР. Ва ўрадзе Гэльмута Коля была міністрам па справах моладзі.

Шродэр паставіў пытаньне аб недаверы ўраду. Бо яго рэйтынг стаў падаць. Пакуль у яго яшчэ ёсьць мінімальная падтрымка, ёсьць шанец працягнуць свае паўнамоцтвы. Бо дынаміка для яго нэгатыўная. Эканоміка Нямеччыны ў крызісе. Узровень беспрацоў'я па краіне сягнуў 11,4 %. Памер грашовай дапамогі для беспрацоўных памяншаецца. Бундэстаг выносіць недавер ўраду. Яганэс Рау зацьвярджае гэтае рашэньне.

У выпадку перамогі на выбарах хаўруса з Хрысьціянска-дэмакратычнага зьвязу й Хрысьціянска-сацыяльнага зьвязу будзе рэфармаваная падатковая сыстэма ў бок памяншэньня й зьніжэньня падаткаў. У першую чаргу – гэта адмена прагрэсыўнага падатку й увядзеньне адзінага. А страхавыя выдаткі кансэрватары плянуюць браць не зь бюджэту кампаніяў, а з агульных падаткаў.

Па-першае, верхняя палата парлямэнту Нямеччыны (Бундэсрат) не распушчаная й ХДС/ХСС яшчэ два гады будзе там мець большасьць.

Да таго ж у выпадку перамогі хрысьціянскіх дэмакратаў будзе разбураная вось Парыж – Бэрлін – Масква, бо правыя дэкляруюць роўныя адносіны з усімі сябрамі ЭЗ. Таксама Мэркель ужо абвесьціла пра свой намер падтрымаць Польшчу ў яе дыпляматычным канфлікце з афіцыйным Менскам, а таксама – ва ўсіх яе (Польшчы) дачыненьнях з Масквой.

Таксама хадэкі (у адрозьненьне ад эсдэкаў Шродэра) лічаць, што вайсковая апэрацыя ў Іраку была мэтазгодная й неабходная, што ў Эўразьвяз ні ў якім разе ня трэба прымаць Турцыю, а наконт Баўгарыі й Румыніі трэба яшчэ моцна падумаць. Што ж да ўзаемадачыненьняў магчымага новага канцлеры Нямеччыны й Аляксандра Лукашэнкі, дык можна ўпэўнена казаць, што ў дачыненьні да апошняга правы ўрад Нямеччыны будзе больш жорсткім, чымсьці левы. Бо, па-першае, нямецкія хрысьціянскаія дэмакраты гістарычна, ад пачатку аднаўленьня дзяржаўнасьці Беларусі маюць стасункі з нашымі правымі партыямі, у прыватнасьці з Партыяй БНФ, а па-другое, калі ўлада пяройдзе да правых, дык яны здольныя больш дакладна акцэнтаваць у перамовах зь беларускім бокам, што менавіта іх цікавіць, і наколькі далёка яны здольныя пайсьці ў перамовах. І на якіх умовах.

## камэнтар

Нямецкія хрысьціянскія дэмакраты – людзі, якія разумеюць, што акрамя хвіліннага эканамічнага зыску, ёсьць рэчы вечныя, безь якіх зыск траціць сэнс. Яны здольныя ўсьведаміць клопат цэнтральна-ўсходніх эўрапейцаў пра сваю незалежнасьць ад Масквы. Ангеля Мэркель падчас сустрэчы з кандыдатам на прэзыдэнта Польшчы ад партыі Грамадзянская плятформа Дональдам Тускам зрабіла вельмі важнае запэўненьне, што пасьля вяртаньня хадэкаў да ўлады ў Бэрліне ня будзе такога, каб "старая" Эўропа (Нямеччына з Францыяй) дамаўляліся пра нешта з Расеяй праз галаву Эўропы "новай". Тут маецца на ўвазе ня толькі магчымая пабудова газаправоду з Расеі ў Нямеччыну па дне Балтыйскага мора, які адсякае краіны нашага рэгіёну ад альтэрнатыўных даставаў энэрганосьбітаў (паводле міжнароднага права, нельга перакрыжоўваць падводныя газа- і нафтаправоды, а значыць, становіцца немагчымым будаўніцтва падводнае трубы з Нарвэгіі). Гаворка ідзе пра спыненьне сэпаратных палітычных размоваў з Пуціным, якія апошнім часам вядуць Шродэр, Шырак і часам гішпанскі сацыялістычны прэм'ер Сапатэра і якія падрываюць сэнс існаваньня Эўрапейскага Зьвязу як палітычнае суцэльнасьці.

Хадэкі ведаюць Беларусь. Кляўдыя Нольтэ, пэрспэктыўны хадэцкі палітык, неаднаразова ў нас бывала. Яна ўзначальвае парлямэнцкую групу ХДЗ/ХСЗ ў справах Беларусі й прапаноўвала Бундэстагу значна больш кампэтэнтныя й пасьлядоўныя рэзалюцыі, чым эсдэкі, якія яшчэ зусім нядаўна спадзяваліся на перавыхаваньне калі не Лукашэнкі, то прынамсі палатніка й БРСМаўскага "лідэра" Орды. З сымпатыяй ставяцца да свабоднае Беларусі старшыня фракцыі Эўрапейскай Народнай Партыі – Эўрапейскія Дэмакраты ў Эўрапарлямэнце Ганс-Герт Пётэрынг, эўрадэпутаты Эльмар Брок і Міхаэль Галер ды многія іншыя. Пажадайма ім посьпеху!

**Вінцук Вячорка**

# МІКОЛА ПАЧКАЕЎ

Партыя БНФ – гэта ня толькі людзі, якія жывуць у Беларусі. Гэта таксама й людзі, хто, жывучы ў розных краінах сьвету рэпрэзэнтуюць нашую партыю, прадстаўляюць яе інтарэсы й робяць сваю справу ня менш аддана й напружана. Адзін з такіх людзей – прадстаўнік Партыі БНФ ў Вялікай Брытаніі **Мікола Пачкаеў.**

Яму ўсяго 32 гады. Але яго стаж у партыі – ажно 17 гадоў. Сп. Мікола — актывіст БНФ "Адраджэньне" ад 1989 году. Удзельнічаў у дзейнасьці БНФ на ўзроўні мясцовай рады, потым — у маладзёвай фракцыі БНФ і Дружыне БНФ; дэлегат Канфэрэнцыі БНФ улетку 1996 г. У 1997 сябра арганізацыйнага камітэту Маладога Фронту, удзельнік устаноўчага сойму; сябра Сойму БНФ, Управы БНФ, сябра Міжнароднай Камісіі партыі. Ад 1999 году, апроч працы ў Сойме і Міжнароднай Камісіі; Пачкаеву давялося ўзяць на сябе вельмі цяжкі й адказны кавалак працы – ён стаўся сябрам дэлегацыі БНФ на консультацыях дзеля перамоваў за пасярэдніцтвам АБСЭ ў 1999-2000 гадах. Упаўнаважаны выступаць прадстаўніком БНФ у замежных контактах у 1997 і 1999 гадах. У 2005 зацьверджаны прадстаўніком БНФ у Злучаным Каралеўстве.

У 1990 годзе Мікола паступіў на беларускамоўную «плынь» гістарычнага факультэту Белдзяржунівэрсітэту; з 1992 года на факультэце міжнародных дачыненьняў (у 1994-95 гг. у каледжы ў ЗША), скончыў БДУ ў 1996 годзе. У 1997-98 гг. на магістарскай праграме Цэнтральна-Эўрапейскага ўнівэрсітэту ў Будапэшце, пасьля на магістарскай праграме ў Кембрыджскім унівэрсітэце. З 2000 году ён працягвае дасьледваньні ў Кембрыджы для атрыманьня доктарскай ступені. Зараз ён працуе ў Лёндане перакладчыкам, аналітыкам міжнароднай палітычнай рызыкі ды інвэстыцыйнага клімату, зьяўляецца лёнданскім карэспандэнтам Радыё «Свабода».

Мікола Пачкаеў — сябра Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі: сакратар Згуртаваньня ў 2003-2004, а зараз — намесьнік старшыні.

Сябра Рады БНР, у 2005 годзе прызначаны ў Сакратарыят вонкавых справаў прэзыдыюму Рады БНР.

Аўтар артыкулаў у «Нашай Ніве», «Спадчыне», «Arche», «Нашым Слове», «Belarusian Review» і іншых выданьнях Беларусі й замежжа.



Раён Лёндану Woodside Park – бадай, самы беларускі раён Лёндану. Некалькі дамкоў запар з даўніх часоў належаць беларускай дыяспары. Там жыве Мікола, а ў суседнім доме – Айцец Аляксандр Надсан. Разам яны падтрымоўваюць вялікую бібліятэку, робяць шмат дзеля падтрымкі беларусаў Брытаніі й разьвіцьця контактаў паміж імі. Мікола Пачкаеў ёсьць сапраўды вельмі каштоўным сябрам Партыі, бо ён зьяўляецца добрым спэцыялістам у тэарэтычнай і практычнай паліталёгіі. Яскравым сьведчаньнем таго, што Сойм Партыі БНФ зрабіў слушны выбар, калі ў гэтым годзе на прапанову старшыні зацьвердзіў спадара Пачкаева нашым прадстаўніком у Злучаным Каралеўстве, ёсьць сяброўства Міколы Пачкаева ў Радзе БНР. Актыўная папулярызацыя беларушчыны ў англамоўнай інфармацыйнай прасторы – яшчэ адзін з істотных накірункаў дзейнасьці нашага прадстаўніка ў Брытаніі. У прыватнасьці, ён ёсьць аўтарам шэрагу грунтоўных тэкстаў пра беларускую лацінку, якія даводзяць прыналежнасьць беларускай культуры да агульнаэўрапейскае традыцыі.

Адданая й ахвярная праца Міколы Пачкаева, яго навуковая дзейнасьць – сьведчаньне таго, што наша партыя мае добра адукаваных, прагных да працы й адданых людзей, і, дзякаваць Богу, іх досыць шмат. Як ў Беларусі, так і за яе межамі.




Навіны БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

№5(67), 9 верасьня 2005 г., наклад 280 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі

Printed by CRC